ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 47 (1801) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 25 ЛІСТАПАДА 1990 г. ЦАНА 600 зл.



Старшыня Галоўнай управы БАЗА Антон Шукелайць (злева) і беларуская дзяячка Вера Бартуль у часе 19-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Клiўлендзе, штат Агайо.

## Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

**У верасні гэтага года наша журналістка Ада Чачуга знаходзілася ў Нью-Йорку па запрашэнні амерыканскіх беларусаў. Прымала таксама ўдзел у 19-ай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Знаёмілася са штодзённым жыццём і дзейнасцю старой беларускай эміграцыі. Зараз дзеліцца яна сваімі ўражаннямі з чытачамі „Нівы“.**

### АДЧУЦЬ ЦЯПЛО

Было ўжо добра па дзесятай вечара 27 жніўня гэтага года, я якраз закончыла свае справы ў рэдакцыі, калі ў маім пакоі з'явіліся Мундэк Бурэль і Славік Астапчук з „Кур'ера Падляшскага“. Прасілі, упрашвалі, каб я падвезла іх дахаты.

— Хлопцы, я а пятай раніцы еду ў камандзіроўку, — узмалілася я.

— Праўда? А куды ж гэта ты выбіраешся? — засумняваўся Бурэль.

— У Нью-Йорк, — кажу, ізноў пахіляючыся над матэрыяламі ў наступны нумар.

У гэты момант сябры дружна зарагаталі. Іх шчыры смех несарыентаванаму мог бы здацца недарэчным. Аднак жа калегі па пяру добра ведалі нашу журботную журналісцкую сітуацыю, і гэты іх іранічны смех быў цалкам абгрунтаваны. Вядома, на такую паездку давала нулявыя шанцы не толькі пустая сёння журналісцкая кішэнь, але і нулявы ўдзел выдаўцы ў такой „камандзіроўцы“, калі нават з індэксацыяй для журналістаў ён залягаў ад красавіка... Дзякуй Богу, што хоць шэф даў камандзіроўку і не трэба было браць бясплатнага водпуску.

Сябрам з „Кур'ера Падляшскага“, якіх я ўсё ж дахаты падвезла, няўцям было, што вось знайшоўся нехта ў Амерыцы, хто вельмі сардэчна запрасіў мяне да сябе, і нават вельмі заахвочваў: „Прыязджай на з'езд! Будзе табе цікава. Людзей мноства з'едзецца, пабачыш на свае вочы, пазнаёмішся, можа напішаш што! — А пасля рашуча сцвердзіў: — Пра побыт у нас не хвалюйся! Усё бярэм на сябе!“

І неўзабаве на пацвярджэнне гэтых слоў я атрымала, перададзенае аказіяй, пісьмовае запрашэнне ад гэтай асобы. А была ёю спадарыня Вера Бартуль з Нью-Йорка, вядомая беларуская дзяячка ў Амерыцы. А праз які тыдзень такім жа спосабам прыйшло і афіцыйнае запрашэнне ад БАЗА (Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Амерыцы), падпісанае яго старшынёю Антонам Шукелайцем. — Каб толькі амерыканскае пасольства дало хутчэй візу, каб хаця паспела я на з'езд. Службовыя ж візы афармляюць без чаргі.

Такім чынам, я сваім калегам не маніла. Віза была афармлена даволі хутка, і мой самалёт сапраўды адлятаў 28 жніўня а 10.50, а трэба ж было яшчэ даехаць да Варшавы...

Такая нагода траплялася мне

(Працяг на стар. 4)

## МІЖ ВАРШАВАЙ І МІНСКАМ

Пасля візіта міністра замежных спраў Кшыштофа Скубішэўскага ў Мінску ў беластоцкай прэсе пачалася істэрычная паніка. Да яе далучыўся пасол Беластоцкай зямлі Кшыштоф Путра, адзін з лідэраў тутэйшай „Салідарнасці“, які 26 кастрычніка ў Сейме зрабіў заяву ад імя сваіх выбаршчыкаў. Прычынай было яго ўсхваляванне выказваннямі некаторых беларускіх палітыкаў. Што так усхвалявала пасла Путру і яго выбаршчыкаў? Найбольш „bezpodstawne oskarżenie wysunięte przez niektórych polityków mińskich o rzekome prześladowanie czy dyskryminowanie mniejszości białoruskiej, bolą nas i czynią nam krzywdę, podejrzewanie zaś Polaków o fanatyzm religijny i celowe podpalanie cerkwi prawosławnych na Białostocczyźnie dopełniają miary insynuacji, kłamstwa i jednostronności”. Паводле пана Путры, усё ў парадку і беларусы павінны быць задаволеныя, што жывуць у такой сітуацыі, якая ёсць. Калі так, то чаму наракаюць? Чаму просяць у паслоў інтэрвенцыі (пана пасла Путру не прасілі, бо і так, пэўна, не памог бы), пішуць скаргі ў Сейм і Урад. Чаму пратэстуюць супраць парушэння канстытуцыі? (глядзі: „Ніва“ ад 2 лістапада 1990 года). Усё-такі найбольш балючая справа для беларусаў — гэта пагроза для праваслаўных цэркваў. Пасол Путра на гэту тэму сказаў, спасылаючыся на Ваяводскую пракуратуру, што на працягу 20 год згарэла толькі сем цэркваў, і то з віны карыстальнікаў. Вось што ўстанавіў пан пасол з пракурорам. Я не хачу нікога абвінавачваць, але хацелася б прыпомніць пракурору і паслу Путру здарэнне не з 20 год, а толькі ад сакавіка да верасня гэтага года:

— 29 сакавіка — падпалена царква ў Кракаве,

— 12 красавіка — падпалена царква ў Нарве (адна асоба загінула),

— 17 красавіка — аганьбавана царква ў Крынчацы каля Гайнаўкі,

— 20/21 красавіка — абакрадзена царква ў Ольштыне,

— 18 чэрвеня — абакрадзена царква ў Сувалках,

— 25 чэрвеня — напад на царкву Марыі Магдаліны ў Бе-

(Працяг на стар. 4)

## НА МЯЖЫ

— 14 —

Каля года таму назад Вярхоўны Савет БССР прыняў дзівосную пастанову. Санкцыянавала яна штрафы і кары ў адносінах да ўсіх тых, хто карыстаецца нацыянальнай сімволікай. Гэта абазначала, што ўсе тыя асобы, якія паяўляліся на вуліцы, плошчах ці стадыёнах з бела-чырвона-белымі сцягамі або проста носяць значкі-мініяцюры сцягоў ці „Пагоні“, будуць абкладвацца штрафам. Наколькі не памыляюся, штрафы мелі раўняцца пяцідзесяці рублям. Цяжка мне сказаць, колькі асоб было аштрафавана і якія матэрыяльныя карысці атрымала з гэтых штрафаў дзяржава. Аднак вядома, што акцыя гэта прынесла дзяржаве страшэнныя маральныя страты. Бо што ж гэта за парламент суверэннай рэспублікі, які штрафамі бароніцца ад нацыянальнай сімволікі?! Вынік пастановы Вярхоўнага Савета быў поўнасцю супрацьстаўны надзеям аўтараў і ініцыятараў пастановы. Ходзячы па вуліцах Мінска, я бачыў, як шпарка ўзрастала колькасць асоб, асабліва маладых, якія пачалі насіць нацыянальную сімволіку. Сёння, наколькі мне вядома, ніхто ў Беларусі не штрафуе асоб, якія карыстаюцца нацыянальнымі значкамі ці сцягамі. Гэта значыць, што Вярхоўны Савет прызнаў поўны правал сваёй ідэі. Аднак не ведаю, ці афіцыйна была скасавана кампраметуючая пастанова. Калі не, дык трэба гэта зрабіць як мага хутчэй. Тым болей, што ўсе савецкія рэспублікі санкцыянавалі карыстанне нацыянальнай сімволікай нароўні з агульнасавецкай.

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Тэма ганебнай пастановы Вярхоўнага Савета не з'яўляецца галоўным матывам маіх сённяшніх разважанняў. Здаецца мне, што гаворачы аб нацыянальнай сімволіцы Беларусі, найважнейшай справай становіцца беларускі дзяржаўны гімн. Як вядома, доўгі час Савецкая Беларусь увогуле не мела гімна. Як агульнасавецкі гімн служыў тэкст „Інтэрнацыянала“. Аднак у канцы вайны Сталін прыйшоў да вываду, што як Савецкаму Саюзу, так і рэспублікам патрэбны гімны, у якіх будзе ўвекавечаны яго розум і яго геній. Вось так агульнасавецкі гімн быў зацверджаны Вярхоўным Саветам у 1944 годзе. У яго тэксце, між іншым, гаварылася:

Сквозь грозы сияет нам
солнце свободы
И Ленин великий нам путь
озарил,
Нас вырастил Сталин
на верность народу,
На труд и на подвиги
нас вдохновил.

З часам пачалі ўзнікаць гімны паасобных рэспублік, якія таксама славілі вялікасць Леніна, Сталіна, партыі і Расіі. Зразумела, што і ў беларускім гімне (словы М. Клімковіча, музыка Н. Сакалоўскага) вернападданчыя, сервілістычныя ідэі былі вядучымі. І так, нягледзячы на пэўныя пераробкі, засталося да сёння. Нацыянальны момант выразна схіляецца на далейшае месца. Вось рэфрэн Беларускага гімна:

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас
ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, беларускі народ!

У апошнім рэфрэне „беларускі народ“ увогуле выпадае і падмяняе яго: „Слава табе, наш Савецкі народ!“.

На маю думку, гімн такога тыпу ёсць гімнам нацыянальнай зняволенасці, а не нацыянальнай супярэчнасці і таму павінен быць як найхутчэй зменены. Думаю, што мова гімна павінна адлюстроўваць характар гістарычнага мінулага беларускага народа, яго нацыянальныя аспірацыі і перспектыву яго будучага. Як гэта зрабіць? Здаецца мне, што трэба аб'явіць ананімны конкурс на музыку да выбранага тэксту. Да гэтых конкурсаў павінны быць дапушчаны беларусы незалежна ад месца пражывання. Не ведаю, ці выбар лепшага тэксту і музыкі павінен быць залежны толькі ад конкурсных камісій ці таксама павінен быць паддадзены пад агульную дыскусію.

Так ці інакш, справа Дзяржаўнага гімна гэта справа тэрміновая. Новы гімн мае служыць пачуццю нацыянальнага гонару, а не як дагэтуль, пачуццю нацыянальнага сораму.

**Алесь Барскі**

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Польска-нямецкі гранічны трактат** быў падпісаны міністрамі замежных спраў Польшчы і Нямеччыны ў Варшаве. Трактат прызнае канчатковы характар сённяшняй граніцы на Одры і Нысе і забавязвае ніколі не аспрэчваць гэту граніцу. Міністр Ганс Дзітрых Геншэр сказаў, што немцы „не аддалі нічога, што не было ўжо раней страчана ў выніку злачыннай вайны і нацысцкага рэжыму“.

**Спецыяльны пасланец Ватыкану айцец Раберта Туці,** які адказвае за падрыхтоўку замежных пілігрымак папы, прабываў у Беластоку. Мэтай візіта была ацэнка ўмоў прыняцця папы Яна Паўла II жыхарамі Беластока, Драгічына і пагранічных раёнаў Беларусі на беластоцкім аэрадроме (5 чэрвеня 1991 г.), Аэрадром сёння яшчэ крыху занядбаны, але прадбачваюцца многія змены ў сувязі з перабудовай дарогі і месца ўстанаўлення алтара. З аэрадрома а. Туці накіраваўся ў **царкву св. Мікалая,** якую таксама наведае папа, а потым у пракафедру і Вышэйшую духоўную семінарыю.

**У Гайнаўцы знесены помнік-танк** — сімвал памяці і пашаны героям барацьбы з гітлераўскім фашызмам. Супраць гэтага пратэставалі чатыры арганізацыі ветэранаў з гміны і горада Гайнаўка. На месцы ліквідаванага помніка будзе ўзведзены новы — прысвечаны палякам, загінуўшым на ўсіх франтах барацьбы за Польшчу, а таксама ахвярам, пацярпеўшым ад таталітарных рэжымаў.

**Помнік ксяндза Ежы Папялушкі** ў нью-йоркскім квартале Грынпоінт быў аганьбаваны. У фігуры помніка была адбіта галава, а на пастуменце зроблены надпіс: „За Леніна, за Сталіна“.

**Дэзерціруюць салдаты Савецкай Арміі** з часцей, якія знаходзяцца на тэрыторыі былой ГДР. За апошнія тыдні ўцякло больш 200 салдат. 53 з іх папрасіла палітычнае прыстанішча ў Нямеччыне, а 150 чалавек хаваецца. Развіваецца нелегальны гандаль зброяй. Карабін маркі „Калашнікаў“ можна купіць за 200, пісталет — за 100, а гранату ці міну — за 25 марак.

**У Гродна можна з Беластока званіць аўтаматычна. Код — 007.** Пасля кода трэба набраць сямілічбавы нумар гродзенскага абанента. Калі ў нумара менш лічбаў, то трэба яго папярэдзіць аднной або двума лічбамі 2. Напрыклад, каб пазваніць пад нумар 342-52, трэба набраць 007, а потым 22-342-52.

**У Белавежы** праходзіла навуковая канферэнцыя, прысвечаная хваробам зуброў у Белавежскай пушчы. У канферэнцыі, апрача спецыялістаў з Белавежы, Беластока і Варшавы, прымалі ўдзел беларускія навукоўцы з Каменюкоў і Мінска.

**І Агляд беларускага фільма** арганізавала на Беласточчыне БГКТ супольна з кінастудыяй „Беларусьфільм“. На працягу тыдня (17—23 лістапада) можна было паглядзець лепшыя беларускія кінафільмы і сустрэцца з рэжысёрамі, акцёрамі, аператарамі. Да тэмы агляду вернемся у асобнай публікацыі.

**Атрасіны для студэнтаў-першакурснікаў** арганізавала ў Беластоку Беларускае аб'яднанне студэнтаў.

### ПЕРАДВЫБАРЧАЯ СУСТРЭЧА

4 лістапада г.г. кандыдат на прэзідэнта Рэчыпаспалітай Польскай, пасол Сейма Уладзімір Цімашэвіч сустрэўся ў Рыбалах з сялянамі з паўднёва-ўсходніх гмінаў ваяводства. Спачатку ахарактарызаваў ён актуальную складаную сітуацыю ў краіне і падкрэсліў, што ў далейшым яе развіццё будзе залежыць ад палітычных рашэнняў, а яны, у сваю чаргу, будуць залежыць ад таго, якога прэзідэнта выбярэ народ.

Рэформы, якія зараз праводзяцца, не задавальняюць нашае грамадства, а ў многіх выпадках — расчароўваюць. У такой сітуацыі выспяваюць погляды аб патрэбе моцнай пазіцыі прэзідэнта. Прэзідэнт павінен служыць умацаванню дзяржавы, але не можа быць пагрозай для дэмакратыі. Павінен ён быць гарантыяй для плюралістычнай, дэмакратычнай, талерантнай дзяржавы.

Пасол Уладзімір Цімашэвіч многа ўвагі адвёў сельскагаспадарчым праблемам. На вёсцы зараз жыве 40 прац. грамадства. Сельская гаспадарка з'яўляецца настолькі важнай галіной гаспадаркі, што нельга яе аставіць без арганізаванай і сістэматычнай дапамогі дзяржавы. Гэта дзяржава павінна стварыць умовы для прадукцыйнасці і рэнтабельнасці харчовых прадуктаў. Зараз у дзяржавы няма магчымасцей гарантаваць сялянам цэны. Але яна павінна забяспечыць крэдыты на спрыяльных умовах, весці інтэрвенцыйную скупку пладоў (ёсць жа Агенцтва сельскагаспадарчага рынку) і стварыць магчымасці экспарту лішкаў сельскагаспадарчай прадукцыі, асабліва ў Савецкі Саюз. Аб форме ўласнасці нельга вырашаць у Варшаве. Ці нейкі саўгас ці калгас трэба прыватызаваць або пераўтварыць у акцыянерскую суполку, павінны вырашыць рабочыя калектывы, а рашаючым фактарам павінны быць эканамічныя эфекты. Усім формам уласнасці ў сельскай гаспадарцы трэба запэўніць аднолькавыя ўмовы.

На пытанне пра нацыянальную палітыку і спосаб фінансавання культурна-асветнай дзейнасці БГКТ У. Цімашэвіч паінфармаваў, што нацыянальныя таварыствы будуць атрымоўваць датацыю ад Міністэрства культуры і мастацтва, а дзяржава будзе ствараць умовы для захавання нацыянальнай і рэлігійнай тоеснасці меншасцяў. Выказваўся ён таксама за выключэнне з-пад правілаў свабоднага рынку асветы, культуры, аховы здароўя і ў нейкай ступені жыллёвага будаўніцтва. Асабліва бясплатная адукацыя павінна ствараць умовы для навукі ў напрамку, згодным са здольнасцямі, і нельга яе абмяжоўваць эканамічнымі фактарамі.

Пасля сустрэчы з сялянамі кандыдат на прэзідэнта У. Цімашэвіч пабываў на Грабарцы і наведаў жаночы манастыр св. св. Марфы і Магдаліны. Выказаў ён словы спагады з прычыны спалення царквы Праабражэння Гасподня ў ліпені г.г. і перадаў ігуменні Людміле на адбудову храма суму 5 мільёнаў злотых, сабраных яго Ваяводскім выбарчым камітэтам. Госць сустрэўся таксама з прадстаўнікамі мясцовага прыхода і цікавіўся падрыхтоўкай да адбудовы спаленага храма.

**Янка Зенюк**

### МІТЫНГ

21 кастрычніка на віцебскім стадыёне „Дынама“ прайшоў мітынг, арганізаваны БНФ „Адраджэнне“. Каля 20 прамоўцаў абмяркоўвалі злабадзённыя пытанні дзейнасці Вярхоўнага Савета Беларусі, працы абласнога і гарадскога Саветаў. Быў прыняты зварот да ВС БССР, у якім, у прыватнасці, выкладзены патрабаванні не заключаць саюзны дагавор, часова спыніць працу прызыўных камісій ваенкаматаў, выпрацаваць закон аб рэферэндуме, зарэгістраваць народны фронт. У звароце да мясцовых Саветаў гаворыцца аб неабходнасці пабудовы помніка ахвярам сталінізму, перагляду графіка працы гандлю, не святкаваць угодкі перавароту 7 лістапада. Частка прысутных (а ўсяго было каля 500 асоб) трымала плакаты з надпісамі „Незалежнасць Беларусі“, „Спыніць бальшавізацыю Саветаў“, „Вон ядзерныя базы“, „Танкі за Волгу“ ды іншыя.

**Юрась Сцяпанаў**

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## З'езд маладзёжнага брацтва

На свята Пакровы Божай Маці (14 кастрычніка) назначылі сабе маладыя людзі з Брацтва праваслаўнай моладзі шосты ўжо з'езд гэтай арганізацыі ў Беластоцка-гданьскай епархіі. Дзень пачаўся святой літургіяй, адслужанай архіепіскапам Савам, на якой маліліся многія святары, удзельнікі з'езда ды прыхаджане сабора св. Мікалая.

Пасля вельмі спраўна падрыхтаванага абеда (з якога, лічу, непрысутны Валодзя Пац быў бы вельмі задаволены) пачаўся сход. Адмовіўшы супольна малітву, архіепіскап Сава падрабязна ацаніў дзейнасць брацтва за апошні год. Пазітыўную ацэнку атрымалі ўсе праявы ягонай актыўнасці, у тым ліку арганізацыя лагераў для дзяцей у час летніх канікул, устанаўленне кантактаў з праваслаўнымі ў Грэцыі, удзел у экуменічным лагеры ў Супраслі, наладжванне паломніцтва на св. гару Грабарку, ды іншыя. Асаблівая ўвага была адведзена ўдзелу брацтва ў акцыі „Дзеці Чарнобыля". Архіепіскап Сава прыхільна ацаніў удзел моладзі ў арганізацыі дапамогі дзецям з Беларусі, пацярпеўшым ад чарнобыльскай катастрофы, ды адначасова пазнаёміў з пастановай Сінода Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы прыняць у наступным годзе тысячу „дзяцей Чарнобыля". Прамоўца не скрываў надзеі, што моладзь ізноў уключыцца ў дапамогу.

Адмоўна ацэнена была слабая кансалідацыя брацтва, ягоная малая аператыўнасць у грамадскай працы. За адмоўны паліčыўся таксама факт, што дзейнасць арганізацыі абмяжоўваецца актыўнай працай толькі некалькіх чалавек, магчымасці якіх вельмі малыя.

Дыскусія, якая разгарнулася пасля ўступнага слова ўладыкі Савы, прызнаюся, мяне асабіста расчаравала. Зала, запоўненая да апошняга месца (каля 60 чалавек), быццам зусім не цікавілася будучыняй брацтва. Першы раз прыняў я ўдзел у падобным сходзе. Людзі прыйшлі, каб супольна... памаўчаць. Сапраўды дзіўная з'ява. Толькі праз некалькі хвілін пачалі адзывацца паасобныя галасы, пераважна вопытных дзеячоў.

На сходзе ішла гаворка пра новыя формы працы брацтва ў сувязі са зменай становішча ў краіне. Сабраныя пазітыўна адгукнуліся на заклік дапамагчы „дзецям Чарнобыля". Абмяркоўвалася таксама выдавецкая дзейнасць суполкі. Сказана было, што ганарам для брацтва павінна быць друкаванне магчыма найбольшай колькасці выданняў (газет, часопісаў, кніжак), якія пашыралі б веды пра праваслаўе сярод ягоных вернікаў ды людзей іншых веравызнанняў. За важнае палічылі ўдзельнікі сходу наладжанне зносінаў з праваслаўнымі маладзёжнымі суполкамі за межамі Польшчы, асабліва на Беларусі і Украіне.

З'езд выбраў новыя ўлады брацтва — раду ды Галоўнае праўленне, а таксама старшыню, якім астаўся Андрэй Неміровіч, студэнт IV курса гісторыі. Пасля заканчэння з'езда, яго ўдзельнікі са сваім архіпастырам пераехалі ў царкву на Сонечным Стоку. Там быў адслужаны акафіст Божай Маці, на які прыйшло шмат прыхаджан царквы Уваскрашэння Гасподняга.

У канцы дня (недзе каля восьмай гадзіны вечара) ўсе сабраліся ля вогнішча на пляцы перад будаванай царквой. Супольная забава, песні (у тым ліку і шмат беларускіх) ды танцы завяршылі VI з'езд Брацтва праваслаўнай моладзі Беластоцка-гданьскай епархіі.

Шмат працы чакае актывістаў брацтва. На маю думку, гэтая суполка павінна стаць больш адкрытай і дэмакратычнай. Час ужо выйсці з глухога запаведніка, паказаць свету, што ёсць праваслаўная моладзь, якая не саромеецца сваёй рэлігіі і нацыянальнасці і хоча працаваць для яе дабра. Дапамажы вам Божа!

**Ю. Каліна**

Фота М. Цімашука



*Удзельнікі з'езда пасля святой літургіі.*

## У БЕЛАСТОЦКІМ БАСе

Бурлівае і набрынялае падзеямі лета '90 прамінула і выглядала б, што астанецца толькі ўспаміны. Купалле, „Басовішча", „Бацькаўшчына" мелі вялікі водгук у беларускім жыцці не толькі на Беласточчыне, але разышліся шырокім рэхам па за яе. Аднак час вяртацца на зямлю, досыць жыць мінулым. Нягледзячы на персанальную перацярэбленасць арганізацыі (так у нас бывае, што пасля чарговага з'езду БАСу большасць яго кіраўніцтва пакідае бацькаўшчыну дзеля фізічнага камфорту прыбірання вуліц на Захадзе), новы сезон аб'яднанне не можа праспаць.

Вось ужо 23 кастрычніка ветэраны беластоцкіх гурткоў БАСу сабраліся, каб абмеркаваць сітуацыю ў арганізацыі, пагаварыць аб мінулым і падумаць, што далей. Дзіўная рэч, але на сустрэчу табуном звaліліся першакурснікі, кандыдаты ў БАС. Прыйшлі і заявілі: мы шмат пра вас чулі, хочам быць у БАСе, хочам тут дзейнічаць. Не было выйсця, басаўскія мастадонты былі вымушаны нешта запрапанаваць маладзікам. Узнікла ідэя штотыднёвых інтэгруючых сустрэч. Варта было б працягваць дзейнасць танцавальнага гуртка, сабраць у кучу выдавецкую працу, а першакурснікам адразу трэба наладзіць атрасіны.

Ужо праз тыдзень БАС наладзіў дэманстрацыю відэа з „Басовішча". Тыя, што асабіста прысутнічалі на студэнцкім фестывалі ўлетку, і тыя, што толькі з вуснаў сяброў або масмедыяў аб ім пачулі, сядзелі паўночы перад экранам.

Час задумацца над будучыняй арганізацыі. Сітуацыя ў Польшчы і на Беларусі прыводзіць да самых розных думак, ад крайне сумных па радаснае захапленне. Аб адным трэба памятаць: калі самі чагосьці не зробім, ніхто нам і не паможа. Сябры студэнты, маладыя беларусы, праз месяц трэці з'езд БАСу. Трэба да яго падыйсці з новым мысленнем, новымі ідэямі ды энтузіязмам, якога зараз усё менш і менш. Мо цераз год удасца зноў сарганізаваць „Басовішча", мо варта вярнуцца да рэйдаў, да народнага універсітэта, а мо штосьці новае будзе больш адпаведным. Няхай мінулыя гады змагання і працы не застануцца толькі старонкай забытай гісторыі.

**Юрка Ляшчынскі**

## КУДЫ ПАДАЦЦА?

„Прысутнасць" размаўляе з выпускнікамі Беластоцкай палітэхнікі, членамі БАСу Юркам Хмялеўскім ды Яўтенам Снопам. Цікавіць нас, што думаюць рабіць далей сябры нашай суполкі, як бачаць будучыню маладой беларускай інтэлігенцыі, як ёй быць і што рабіць.

**„Прысутнасць": — Спадары магістры-інжынеры, пяць гадоў вучобы за вамі. А што далей?**

**Я. Сноп:** — Сапраўды, калі мы былі студэнтамі, усё было вельмі простае, бадай адзіным нашым абавязкам было вучыцца ды яшчэ раз вучыцца, як маўляў правадыр Кастрычніцкай рэвалюцыі. Паколькі не было для нас працы (з'ява зараз у Польшчы звычайная), мы вырашылі яшчэ год прадаўжаць вучобу ў паслядыпломнай студыі арганізацыі і кіраўніцтва, званай інакш „школай менеджэраў". Яе мэта — падрыхтоўка да працы на кіраўнічых пасадах ва ўмовах рынкавай сістэмы. Апрача таго, праходзім яшчэ інтэнсіўны курс англійскай мовы.

**„П": — Гэтая вучоба, здаецца, толькі на адзін год, тады паўтараю: што далей? Як бачыце будучыню маладой беларускай інтэлігенцыі ды наогул беларусаў на Беласточчыне, а можа яе тут няма?**

**Ю. Хмялеўскі:** — Усходняя Беласточчына, зямля нашых бацькоў ды дзядоў, патрабуе хуткага зруху, які падняў бы яе вельмі нізкі гаспадарчы ўзровень. І менавіта тут бачу месца для беларускай інтэлігенцыі. На жаль, практычна такая група не існуе. Ёсць крыху „нашых" людзей з вышэйшай адукацыяй, але яны расплыліся ў польскім асяроддзі ды з беларускім нацыянальным інтарэсам нічога супольнага не маюць. У час, калі працы для ўсіх не хапае, гэты працэс паглыбляецца. Людзі шукаюць абы-якой працы, а калі ўжо яе маюць, тады сядзяць ціха ды наогул забываюць пра ідэю Беларусі, якой не адзін з іх служыў будучы студэнтам.

**Я. Сноп:** — Лічу, што шанцам для Беласточчыны з'яўляюцца эканамічныя ініцыятывы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Супрацоўніцтва з Беларуссю, Саюз гмінаў усходняй Беласточчыны ці наплыў заходняга капіталу — ідэі добрыя, але што з іх рэалізацыяй? Тут патрэбны радыкальныя рашэнні спецыялістаў, а такіх, здаецца, БДА лішніх не мае. На маю думку, выхад вельмі просты — хопіць толькі выкарыстаць капітал, якога ў нас шмат — людзей з адукацыяй. Ёсць толькі адна цяжкасць — трэба ўмець уключыць іх у працу партыі.

**„П": — Ёсць яшчэ адзін спосаб зрабіць гроші, а можа і кар'еру. Маю на думцы выезд**

(Працяг на стар. 5)




### БРАВА, КУПТЭЛЬ!

З месца работы, гэта значыць з пошты, пішу гэтую пахвальную адгалоску на Ваш „Новы час", змешчаны ў 44 нумары „Нівы". Там Вы праўдзіва і станоўча аблаялі Аўрору (і яе падобных засляпенцаў і лізуноў, якія плачуць па скампраметаванай і самараспушчанай партыі). Я збіраўся ўжо нешта пісаць наконт публікацыі Аўроры, якая нічагусенькі не разумее ў палітычных справах, а таксама вельмі плытка „плавае" ў сённяшнім бурлівым часе. Ёй здаецца, што капіталізм гэта ўжо трагедыя для людзей, а тое, чаму яе вучылі ў школе на адной мане па гісторыі яна стараецца ўнушыць чытачам „Нівы". Але Вы, паважаны М. Куптэль, мяне апярэдзілі і напэўна лепш напісалі, чым я меў напісаць у справе Аўроры.

Чаму Расія бедная і голая (шостая частка свету) і нічога няма ў крамах? Дык жа гэта „хвалены" камунізм давёў да гэтага. Тое, што ён сеяў на працягу 73-ох гадоў у сябе, таго сёння пажынае плады. А што сеяў? Сеяў адно зло, папаптаў Бога, кожную рэлігію, культуру. І канешне, пажынае выключна зло. А каб Расія жыла ў капіталізме, прыкладна, як ЗША, і каб не было гэтага праклятага камунізма, дык Расія сваім дабром і збожжам завалiла б цэлы свет. А так сабе не хапае. Пачалі ёю кіраваць галышы, абарванцы, якія і давялі да руіны. Тыя людзі, якія ў морду білі тых, хто асмеліўся праўду сказаць. В. Петручук хваліўся ў „Ніве", што ён такіх біў бы ў морду і ясна, ён мае да гэтага ўправу, бо быў у бяспецы. Але не той ужо час і закароткія ўжо яго рукі; новы час сваё робіць. І ніхто гэтага не затрымае.

**Мікалай Панфілюк**

### ДУХ СТАЛІНІЗМУ

Адкрый міфалагічную скрынку Пандоры, а ўсё злое распаўзецца па свеце. Пятро Байко ўспамінаў пра колішніх карэспандэнтаў „Нівы" і адзін з іх адазваўся „Духам сталінізму, пагарды і хлусні" („Ніва" ад 21.Х. 1990 года). Старэйшыя чытачы „Нівы" прыпамінаюць ваюючага Мікалая Панфілюка — карэспандэнта „Нівы" з Дубічаў-Царкоўных. Цяпер Панфілюк ваюе з Васілём Петручуком і вініць яго за ўсе злачынствы сталінізму. Не чытаю „Голасу Радзімы", замнога было ў ім хлусні і таннай прапаганды, але калі Васіль Петручук там публікуе сваю „нататку", як піша Панфілюк, значыць хоча ён звярнуць увагу на тое, што „новае" ў Польшчы не зусім адпавядае беларусам.

Пакаленне Васіля Петручука (а думаю, што і маё пакаленне) паверыла ў ілюзію, што людзям характэрна дабро, што людзі самі па сабе павінны быць добрымі, што сацыялізм гэта такі лад,

(Працяг на стар. 5)




(Працяг са стар. 1)

ўпершыню за 22 гады маёй працы ў рэдакцыі. За ўсе гады нават на Беларусь мне не давялося выехаць аніводнага разу службова. А гэта ж была, як некажы, нейкага роду службовая паездка.

Збіраючыся ў дарогу, я даволі-такі хвалявалася: усё ж першы раз у Амерыку! Не падарожжа самалётам мяне пужала. Лётала ўжо мо разоў дваццаць пяць. Непакоіла чужая, невядомая краіна, ды і што тут гаварыць — не да сваякоў жа еду! Як там будзе? Як прымуць мяне, ці ўдасца штосьці пабачыць, апрача з'езда?

Рэчаіснасць пераўзышла мае найбольшыя спадзяванні. Высветлілася, што ўсе яны — тыя, у якіх я жыла ці бывала ў Нью-Йорку, тыя, што апекаваліся мною ў Кліўлендзе, у Чыкага, тыя, што вазілі мяне ў Вашынгтон, у Эленвіл, на гару Монаг, на вадаспад Ніягара, тыя, што вадзілі па музеях, бібліятэках, тэатрах, рэстаранах, — усе, што прымалі мяне, займаліся мною, трацілі на мяне час і грошы, як спадарства Бартулёў, Андрусішыных, Кіпеляў, як Антон Шукелайць, Данчык, Рая Станкевіч, Аня Бартуль, Янка Запруднік з Нью-Йорка, як Сяргей Карніловіч, Кастусь Калоша, Янка Ханенка, Славік Карніловіч з Кліўленда; як спадарства Рамукоў з Чыкага і цэлая рэшта знаёмых і незнаёмых беларусаў з Паўночнай Амерыкі, — усе яны мае сваякі і блізкія мне па душы людзі. Адчуць цяпло беларускіх сэрц у чужой, далёкай і нязнанай; нават неславянскай краіне — ці ведаеце, што гэта такое?!

На жаль, усяго гэтага хлопцам з „Кур'ера Падляшскага" я яшчэ не паспела расказаць, але раскажу напэўна.

(Працяг будзе)

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**



**На 19-ую сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая адбывалася ў кліўлендскім „Полацку", у новаадкрытым будынку Беларускага цэнтра, з'ехалася столькі людзей, што на вялікім паркінгу цяжка было знайсці свабоднае месца. Фота Анатоля Абрамчыка.**

## Між Варшавай і Мінскам

(Працяг са стар. 1)

ластоку,

— 12 ліпеня — падпалена царква на Грабарцы,

— у ліпені абакралі царкву ў Саколцы, у жніўні — у Ставішчах, а ў верасні — галоўны храм мужчынскага манастыра св. Ануфрыя ў Яблачыне.

Гэта не ўсё. На працягу гэтага года пару разоў падпаляліся будовы цэркваў у Беластоку. Ніводзін раз не ўдалося Ваяводскай пракуратуры злавіць злачынцаў. Злачынцы, якія падпалілі царкву на Грабарцы, былі затрыманы жыхарамі навакольных вёсак.

Гэта толькі апошнія месяцы. Не было лепш беларускім праваслаўным цэрквам і раней. Прыпомню толькі цэрквы, якія ўжо можам паглядзець толькі на фотаздымках. Яны ўсе былі арыгінальныя і каштоўныя:

— Успенская царква ў Чыжах з XVII ст. з цудоўнымі фрэскамі (згарэла 28/29 жніўня 1985 года),

— цэрквы ў Крушынянах і Клейніках з XVIII ст. (згарэлі ў 1984 годзе),

— царква ў Ячне з XIX ст. (згарэла 14 лістапада 1985 г.).

Усе гэтыя цэрквы гарэлі ўначы пасля парафіяльных святаў, калі было многа людзей. Ці гэта толькі прыпадак? Спаленыя цэрквы сведчылі аб тым, што тут беларусы жывуць ад вякоў. Яны былі адказам польскім „навукоўцам", якія лічаць, што праваслаўе на Беласточчыне гэта вынік падзелу Польшчы і русіфікацыі. Для пана пасла Путры ўсё ясна, што цэрквы пагарэлі самі і палякаў падазраваць у гэтым нельга. Пасол гаварыў таксама, што ён выступае ад імя палякаў, беларусаў, украінцаў, расейцаў — католікаў і праваслаўных. Паўстае пытанне: хто яму даў такое права? Раней беларусы не мелі магчымасці гаварыць самі аб сваіх правах, а зараз рэпрэзентантам беларусаў і праваслаўных аб'явіўся пасол Путра. Беларусаў, якія самі хочуць гаварыць і рашаць аб сваім лёсе, ён называе „шавіністамі і палітыканамі". Гэта ён іх абвінавачвае ў няўдачы візіта Скубішэўскага ў Мінск, у дрэнных адносінах між палякамі і беларусамі. Як так далей пойдзе, то беларусы стануцца віноўнікамі палітычнага і гаспадарчага крызісу ў Польшчы. Пасол Путра прыпомніў таксама (невядома чаму) трактат Рыбентроп-Молатаў і назваў яго ганебным. Ён забыўся, што для беларусаў такі ж самы ганебны, як той з 1939 года, ёсць і Рыжскі трактат з 1921 года. Найбольш усхвалявала пасла Путру тое, што група „псеўдарэпрэзентантаў беларусаў", „кшыкачы", „нацыяналістаў" сустракаецца са сваімі калегамі з Беларускай Рэспублікі „tym samym ignorując wojewódzkie władze, polskie państwo i dobre obyczaje". Вось што. Пасол хацеў бы „псеўдарэпрэзентантам беларусаў" забараніць усялякія кантакты з заграніцай, вярнуць наказы польскіх каралёў з паловы XVII ст. З другога боку, узнікае пытанне, што было б, калі б, з такой прамовай выступіў беларускі пасол у Мінску? Беларусы Беласточчыны не маюць права наракаць на свой лёс, бо гэта парушае „dobre obyczaje". Затое тысячы палякаў на Беларусі, Літве і Украіне могуць адкрыта гаварыць аб сваіх праблемах. Польскія палітыкі, не ігнаруючы добрых звычаяў, могуць сустракацца з палёніяй у суседніх рэспубліках. Беларускім палітыкам гэтага рабіць, паводле пасла Путры і яго выбаршчыкаў, нельга. Мала таго, яны дамагаюцца, каб беларусы іх перапрасілі. Паўстае пытанне: за што? За тое, што хтосьці не разумее, што такое дэмакратыя або спецыяльна скажае камюніке Польскага прэсавага агенцтва.

**Антон Мірановіч**




(Працяг са стар. 5)

## ЗАВУЖАНЫ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

Мікалая Панфілюка надарылася мне пазнаць у пачатках васьмідзесятых гадоў як прыкладнага прапагандыста „Нівы“ і вядомага карэспандэнта беларускага штотыднёвіка. Найважнейшыя ацэнкі ў час карэспандэнцкіх з'ездаў ягоныя былі. Мікалай як пісьманосец дубіцкай пошты актыўна змагаўся за рост падпісчыкаў з году ў год. Да рэдакцыйнага калектыву, асабліва да жанчын, адносіўся з вялікай пашанай і даверам. Але хутка бяжыць час, мяняюцца абставіны, мяняюцца людзі. Вось такой эвалюцыі паддаўся і Коля Панфілюк. Зараз тых, з якімі так шчыра супрацоўнічаў, аблівае памыямі, абзывае сталіністамі, хаця большасць працаўнікоў рэдакцыі адыйшла — хто на пенсію, хто на вечнае спачыванне. Прыйшлі новыя кадры, маладыя людзі. Коля і іх ужо пастараўся ачарніць, змяшаць з балотам.

— Цяпер варта пісаць у „Ніву“, бо яна цікавая, а нават вельмі, — піша ён. Цікава, пра што ён збіраецца пісаць, калі павеяў яму іншы вецер і з іншага боку. Мая толькі парада яму: усё роўна, з кім бы не супрацоўнічаў, то не павінен прымяняць сталінскія метады. Трэба жыць так, каб не мяняць сяброў у такіх ці іншых абставінах — на модных і аджытых. Мікалай піша, што тут, на Беласточчыне, беларусы радзіліся і разбагацелі, што амаль кожны селянін мае свой трактар, машыны, дасканалыя дамы і сельскагаспадарчыя будынкі. Між іншым, піша ён пра нейкую руіну, да якой давяла камуністычная дзяржава. А пры якой уладзе будаваліся гэтыя прыгожыя дамы, купляліся трактары і г.д.? І якіх трактараў на нашых палях сустрэць можна найбольш? Пра гэта, пэўна, Панфілюк і слухаць не захацеў бы. Але ў яго мода такая.

**Пастаянны чытач**
(прозвішча вядома рэдакцыі)

## УРОКІ ЗАКОНУ БОЖАГА

**ПІНСК.** У сярэдняй школе № 12 уведзена вывучэнне Бібліі і гісторыі рускай праваслаўнай царквы. Заняткі — факультатыўныя. Чатыры разы ў тыдзень урокі праводзіць святар Варварынскай царквы айцец Міхаіл. Заняткі наведваюць да 40 вучняў 9—11 класаў.

Пры школе адкрыта таксама нядзельная школа рэлігіі для малодшых школьнікаў ва ўзросце да 12 гадоў. Наведвае яе больш як 100 дзяцей.
*(„Звязда“, № 253 ад 2.11.1990 г.)*

## Аб ахове прыроды на Беларусі

У двайным, 4—5 нумары ад 1990 г. кракаўскага папулярна-навуковага двухмесячніка „Chrońmy Przyrodę Ojczystą“ змешчаны артыкул польскага навукоўца Вінцэнта Гарматы, у якім аўтар піша аб сваёй паездцы на Беларусь восенню 1989 г. У рамках супрацоўніцтва паміж Ягелонскім універсітэтам і Беларускім дзяржаўным універсітэтам у Мінску вучоны ўдзельнічаў у VII Беларускай заалагічнай канферэнцыі ў Віцебску і наведаў Бярэзінскі біясферны запаведнік.

А вось як бачыць ахову прыроды на Беларусі: „...пытанні аховы прыроды ў нашых усходніх суседзяў трактуюцца іхнімі вучонымі сур'ёзна і адказна. Ахоўнікі сутыкаюцца ў сваёй працы з такімі ж цяжкасцямі, як і ў іншых дзяржавах усходняй Еўропы; іх крыніцы ў штораз большым націску прамысловасці, эксплуатацыі лясоў, інтэнсіўнай меліярацыі водна-балотных тэрыторый. Няма магчымасці радыкальна сыскаць засцерагальныя пастулаты і загады, а планавая сацыялістычная гаспадарка адчуваецца на кожным кроку. Няма каардынацыі і садзейнічання паміж адпаведнымі ведамствамі, адказнымі за ахову прыроды. Пастаянную пагрозу для асяроддзя ўзмоцніла ў апошні час аварыя ў Чарнобылі, адмоўныя вынікі якой на беларускай зямлі адчуваюцца па сённяшні дзень. Усё-такі можна прыкмеціць, што цяперашнія перамены ў Савецкім Саюзе дазваляюць з надзеяй думаць аб справах аховы прыроды на Беларусі; патрабуе гэта аднак нейкага часу“.

**П. Байко**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА). ВАРШАВА, 1928.**

— 29 —

Бальшавікі не правялі надзелу зямлёй сялян так, як гэтага хацела вёска. У загорнутых на карысць дзяржавы зямельных маёнтках былі створаны т.зв. „камуністычныя ячэйкі“, у якія была ўцягнута фальваркавая служба.

Сяляне не былі задаволены такой арганізацыяй. Кожны з іх хацеў бы мець хаця б толькі кавалак зямлі для сябе. Адначасна падраздзяленні чырвонагвардзейцаў усё часцей наведвалі вёскі і засценкі, рэквіруючы збожжа, хлеб, мяса, коней, вазы, палатно, самавырабы і г.д.

Штодзённая рэчаіснасць не пацвярджала мараў. Надзел зямлёй, які быў найбольшай спакусай для сялянства і асновай, на якой ад самага пачатку абапіраўся беларускі рух, не праводзіўся. Усё гэта пачынала цве
разіць сялянства, якое дагэтуль сімпатызавала бальшавікам.

**РАЗДЗЕЛ XVI**

**Заняцце Вільні і Мінска польскімі войскамі. Адозва Галоўнакамандуючага Польскага войска. Надзеі і настроі беларусаў. Галасы беларускай прэсы. Прывітанне начальніка Пілсудскага ў Мінску. Змена настрояў беларусаў. Улада генеральнага камісара. Праследаванне беларускага руху польскімі ўладамі. Асветніцкая палітыка на Беларусі.**

Шэсце бальшавікоў на захад следам за адыходзячымі нямецкімі войскамі сутыкнулася з супрацівам польскіх войск. Супраціў гэты ўсё больш магутнеў. Урэшце 19 красавіка 1919 года польскія войскі гвалтоўным і глыбокім абходам занялі і здолелі ўтрымаць Вільню.

Дваццаць другога красавіка 1919 года была аб'яўлена наступная адозва Галоўнакамандуючага:
**Да насельніцтва былога Вялікага княства Літоўскага.**

Ваша краіна ад ста і некалькіх дзесяткаў гадоў не ведае свабоды, прыгнечана рускім, нямецкім, бальшавіцкім насіллем, якое, не пытаючы насельніцтва, накідвала ёй чужыя ўзоры паводзін, паралізавала волю, ламала часта жыццё.

Такі стан безупыннай няволі, добра мне вядомай асабіста як народжанаму на гэтай няшчаснай зямлі, нарэшце мусіць быць ліквідаваны, каб на гэтай зямлі, як бы забытай Богам, запанавала свабода і права на свабоднае, нічым неабмежаванае выказванне аб імкненнях і патрэбах.

Польскае войска, якое я прывёў з сабою для ліквідацыі гвалту і насілля, для ліквідацыі ўлады, якая кіравала краем насуперак волі насельніцтва — войска гэтае нясе вам свабоду і вольнасць.

Прагну даць вам магчымасць вырашэння ўнутраных спраў, спраў нацыянальных і рэлігійных так, як самі гэтага жадаеце, без якога-небудзь гвалту або націску з польскага боку.

Таму нягледзячы, што на вашай зямлі грымяць яшчэ гарматы і лiецца кроў, не ўводжу вайсковай улады, а ўводжу ўладу цывільную, да якой буду прыцягваць мясцовыя асобы — сыноў гэтай зямлі.

Заданнем гэтай цывільнай управы будзе:

1) Запэўніць насельніцтву магчымасць выказвацца на тэму ўласнага лёсу і патрэб праз свабодна выбраных прадстаўнікоў. Выбары гэтыя будуць праведзены тайным, паўсюдным і непасрэдным спосабам, незалежна ад полу.

2) Дастаўляць прадукты патрабуючым, падтрымліваць прадукцыйную працу, уводзіць лад і спакой, апекавацца ўсімі незалежна ад веравызнання і нацыянальнасці.

На чале Управы паставіў я Ежы Асмалоўскага, да якога асабіста або да людзей, ім назначаных, звяртайцеся адкрыта і шчыра з усімі патрэбамі і справамі, якія вам баляць і цікавяць.

**Я. Пілсудскі**
Вільня, дня 22 красавіка 1919 года
*(Працяг будзе)*

# ПАД ЗРОКАМ ЗАХАДУ (2)

(...)
Дзень перад ад'ездам я наведаў адзін з блёкаў на Сонечным Стоку, на вятрыстым схіле ў паўднёвай частцы горада. Высозны блёк быў новы, але ўжо абсыпаўся. Тут жыў з дачкою чалавек, які, як мне казалі, зможа мне растлумачыць дакладна, у чым заключаецца сапраўдны дух беластоцкае „Салідарнасці“. (...) Ён сядзеў у савецкай турме, падчас акупацыі быў у Арміі Краёвай, прайшоў праз тры канцэнтрацыйныя лагеры (Грос-Розен, Нордхаўзен, Берген-Бельзен. Ён мне сказаў: „Польшча выконвае сваю гістарычную місію. У 1920 годзе мы выратавалі Еўропу ад бальшавізму. Цяпер Польшча пачала развальваць камунізм ва ўсім свеце, нават у Расеі. Гарбачоў стаў магчымы толькі дзякуючы „Салідарнасці“, і толькі „Салідарнасць“ можа паказаць новы шлях усім нацыянальным рухам...“

Ягоная дачка Зося вярнулася з імшы. Яна — член выканаўчых уладаў рэгіянальнае „Салідарнасці“ — прафсаюза, а не таго крыла, што называецца Грамадзянскім камітэтам і якое арганізавала выбарчую кампанію. Яна была ў падпольных структурах прафсаюза ўвесь перыяд ваеннага становішча пасля 1981, ёй удалося пазбегчы арышту.
(...)
Я запытаўся ў яе наконт беларускіх кандыдатаў у чэрвеньскіх выбарах. Ці праўда, што Лех Валэнса схіляў тутэйшы Грамадзянскі камітэт паставіць праваслаўнага кандыдата ў Сейм і прапанаваў настаўніка Яўгена Мірановіча? Ці была нейкая надзея, што праваслаўны епіскап зможа схіліць сваю паству галасаваць за „Салідарнасць“? І чаму беластоцкі Грамадзянскі камітэт супрацьпаставіўся кандыдатуры Мірановіча ды ідэі паставіць Сакрата Яновіча, беларускага пісьменніка, кандыдатам у Сенат? Ці члены Грамадзянскага камітэта былі выключна палякамі-католікамі?

Зося адказала, што ў наступных выбарах ёй хацелася б бачыць кандыдата з меншасці ў салідарніцкім спіску. Яна добра ведала Мірановіча і ягонага брата; абодвух яна вучыла гісторыі. Але яна папракала беларусаў за тое, што ў іх няма яшчэ паслядоўнага або адназначнага падыходу да „Салідарнасці“. „Так, нас прасілі паставіць Сакрата Яновіча кандыдатам у Сенат. Але ён жа напісаў вершык супроць папы рымскага. Гэта было немагчыма!“

Яе бацька, які ўважліва слухаў, умяшаўся: „У нас у Арміі Краёвай побач з католікамі былі і праваслаўныя хлопцы. І яны таксама ваявалі і паміралі за Польшчу пад Монтэ Касіна...“

Слухаючы бацьку і дачку, я ўбачыў, што ніяк немагчыма дапасаваць іхні погляд на тое, што адбылося, да погляду беларускіх палітыкаў. Я ўжо быў пабачыўся з абодвума, пра якіх яна ўспамінала: з Яновічам першага вечара, а потым з Мірановічам у ягоным выгодным драўляным доміку ў прыгарадзе, дзе пясчаныя вулачкі выбягалі проста ў поле. Абодва яны падкрэслівалі, што і намеру не мелі далучацца да салідарніцкай выбарчай платформы, хаця абодвух іх прасілі. І абодва яны прысягаліся, што як беларусы яны пакончылі б палітычным самагубствам, звязаўшыся з „Салідарнасцю“.

У рэшце рэшт, яны выступілі як незалежныя беларускія кандыдаты ў Сейм і Сенат. Яны прайгралі. Але выдатна прайшлі ў некаторых праваслаўных гмінах, у якіх „Салідарнасць“ амаль нічога не заваявала.

# НА ПІКЕТЫ - З ГАРБАТАЙ

„Рукі прэч!..“, „Далоў!..“, „Спынім!..“ Можна заблытацца, успамінаючы, дзе і калі чуў гэтыя словы ў апошні раз. Таму падказваем: калі не на плошчы Леніна ў час работы Вярхоўнага Савета БССР, то, хутчэй за ўсё, ля ўваходу ў консульства Польшчы ў Мінску 24 кастрычніка, дзе сталі з пікетамі ў асноўным студэнты нашага універсітэта.

Удзельнікі мітынгу прыйшлі сюды з упэўненасцю: „Лёс беларусаў Беласточчыны неаддзельны ад лёсу Беларусі“, „Беларусы — гэта карэнны народ Беласточчыны“. Іх заклікі ў большасці сваёй былі мірныя.

Рэдка здараецца з мітынгуючымі, што іх чуюць тыя, да каго яны звяртаюцца. На гэты раз пачулі. Не толькі міліцыя і прэса, але і сам консул. Некалькі студэнтаў былі запрошаны ў яго кабінет... на гарбату. Размовы за сяброўскім сталом заўсёды прыносяць больш узаемаразумення...

„Беларускі універсітэт“
ад 1 лістапада № 29/1658/
Фота Ул. Панады









Мірановіч, з буйнымі вусамі, аказаўся якраз адным з тых маладых людзей, якіх я бачыў у царкве. У Саката Яновіча, чалавека старэйшага, аўтара шматлікіх кніжак, — цёмныя валасы, салідная пастава і хіба ў маўленні — заікаватасць. Яновіч сказаў мне: „Беларусы баяцца „Салідарнасці“. Для іх яна прадстаўляе рэцыдыў каталіцкага фанатызму даўняе Польшчы, і калі б беларусы думалі, што я разам з „Салідарнасцю“, то ў іхніх вачах я быў бы скончаны“. І фактычна, такія чуткі пайшлі ў людзі. Праваслаўная царква, увесь час нервова насцярожаная супроць беларускага нацыянальнага прабуджэння і напалоханая перспектываю польскіх рэпрэсій, распусціла чуткі, што Яновіч з'яўляецца „крыпта-салідарнікам“, і ў процівагу яму падтрымлівала свайго кандыдата (які вёў выбарчую кампанію выключна на польскай мове). Камуністы, хітрыя да канца, таксама папярэджвалі праваслаўную грамадскасць, што Яновіч — гэта салідарнік. „Салідарнасць“, у сваю чаргу, ухітрылася „рэкамендаваць“ Яновіча як камуністычную марыянетку, перапранутую ў беларускі фальклорны касцюм.

Гэта была сапраўдная куламеса. Але наступным разам, калі мне абодва, будзе лепш. Неўзабаве ўзнікне Беларускі грамадскі камітэт, у тэрытарыяльных выбарах будзе змагацца ўжо зародак палітычнае партыі. На гэтым этапе мэты будуць сціплыя: „культурная аўтаномія“, родная мова ў школах, двухмоўныя назвы мясцовасцяў, беларускі голас у рэгіянальнай палітыцы, каб паўстрымаць адплыў насельніцтва з вёсак.

І тым не менш, дзень 4 чэрвеня — дзень выбараў — аказаўся зваротным пунктам для беларусаў у Польшчы. Як толькі на мітынгу пачынаў гаварыць Сакрат Яновіч, усталёўвалася мёртвая цішыня. „Я адчуваў уласную неразважлівасць, прарываючы гэтыя маральныя камплекс, карыстаючыся моваю, якой дагэтуль карысталіся або ў сям'і ці сяброўскім коле, або пры нейкіх афіцыйных нагодах з запрошанымі госцьмі, але ніколі на публічных мітынгах. Некаторыя беларусы папярэджвалі мяне, каб я не выступаў пабеларуску, бо заўсёды знойдуцца нейкі польскі шавініст, які пачне шпурляць каменнямі“.

Ці справы стаяць аж так дрэнна? Сакрат Яновіч поўніцца гневам на „палякаў, якія захварэлі на анты-расейскі камплекс, і на каталіцызм, які хварэе на каланіяльную экспансіўнасць. Польшча і Расея маюць той самы імперыяльны камплекс, першая ў адносінах да свае страчанае імперыі, другая — у адносінах да здабытае...“ Але ён прызнае, што „у нас няма праблемаў з малодшым пакаленнем палякаў“.

(...)

Том Нэйрн у „Распадзе Брытаніі“ спапулярызаваў аналогію, у якой нацыяналізм прыраўноўваецца да двухаблічнага бога Януса, з адным абліччам павернутым у будучыню, а з другім — назад у мінулае. Дуалізм „Салідарнасці“ якраз і вынікае з янусавай двухаблічнасці польскага нацыяналізму — самага моцнага прыкладу ў падтрымку аналогіі Нэйрна. Павернутае назад аблічча польскага патрыятызму мае рысы, якія мы цяпер назвалі б „прагрэсіўнымі“ або „асвечанымі“. Валэнса і яго ны штаб азіраюцца на даўнюю Рэчыпаспалітую (натуральна, праз ружовыя акуляры) у імя такіх свяшчэнных панняцццяў, як талерантнасць і ідэал шматнацыянальнае дзяржавы. Нацыяналізм Рамана Дмоўскага і „эндэцыі“ — на свой спосаб „сучасны“, калі параўнаць яго са спосабамі ягонага адраджэння ў дасучасны нам перыяд — навучаў на той час модных дактрынаў прымату дзяржавы, масавай партыі, нацыянальнага эгаізму і нацыянальнай місіі. Але гэтыя вартасці даўно ўжо былі адкінуты разам з рэштаю рэакцыйнага еўрапейскага смецця.

Да большасці палякаў цяжка даходзіць разуменне таго, што слабейшыя народы могуць бачыць у Польшчы прыгнятальніка, захопніка і імперыяльную сілу. Гэта не пасуе да вобразу месіянізму: не пасуе да Польшчы — прачыстае-дзевы, не ўкладваецца ў рамкі жыццяпісу вялікамучаніцы і адкупіцелькі Еўропы. У Беластоку абліччы палякаў, спачатку здзіўленых, выкрыўляла гнеўная раз'ятранасць, калі я прыводзіў ім заўвагі Сакрата Яновіча наконт таго, што думаюць беларускія выбаршчыкі пра „Салідарнасць“. Але гэтую загледжанасць на самім сябе, гэтую няздольнасць увайсці ў чужую скуру і глянуць на сябе вачыма іншых трэба будзе скрышыць, калі думаць сур'ёзна пра бяспечнае суіснаванне народаў Усходняе Еўропы.

**Ніл Эшэрсан**
„Granta“, 30, 1990)
Выбраў і пераклаў **Ян Максімюк**

# СУСТРЭЧА СА ШЧАСЦЕМ

Толік Марынку сустрэў на вуліцы Будзённага. Горад, здаецца, невялікі, каля трохсот тысяч, але ўсіх красуняў можна пералічыць — усіх іх спаткаеце на дыскатэцы, калі б хадзіць на іх часцей. Толік рэдка там бываў.

Толіку было амаль 17 гадоў, канчаў сярэднюю школу. Дзяўчына, якая ішла насустрач яму, выглядала б на столькі ж, калі б не рэзкая размалёўка і колер валос, якім хімія надала малочнае адценне. Дарэчы, Марынцы было ўжо дваццаць.

Толік, вельмі скромны і спакойны юнак, праўда, праблем з дзяўчатамі не меў, але таму, што не было ў яго з імі іншых сувязяў, як толькі за школьнай партай. Хлопец высокі, чарнявы, стройны, прыгожы, але заўсёды прыгнятала яго празмерная сарамлівасць і пачуццё сваёй як бы недарэчнасці. Быў вельмі далікатны ў адносінах да людзей, так як і яго маці, Антаніна. У школе вучыўся добра, дома быў паслухмяным сынам. Маці выхоўвала яго адна (бацька недзе бадзяўся па свеце) і дзякавала Богу, што такі сынок ёй удаўся. Вядома, што магло б быць з хлопцам без догляду бацькоўскай рукі!

У гэты вечар сына доўга не было. Антаніна сядзела як на іголках: ніколі так не бывала, каб не прыйшоў на абед, ці, не дай Божа, вячэру. Гатова ўжо была званіць нават у морг.

Толік прыйшоў каля поўначы, узбуджаны і радасны. З гэтага часу змяніўся хлопец — ажывіўся, стаў рашучы і смелы.

Антаніна з сяброўкай сына пазнаёмілася ў сваёй кватэры. У бальніцы, дзе працавала, адчула сябе дрэнна, прыняла лякарствы і паехала дадому. Толік з Марынкай ляжалі ў ложку. Антаніна нічога не сказала, зачыніла дзверы і пайшла ў свой пакой. Калі дзяўчына пайшла, маці кінулася да сына:

— Толік, як ты можаш прыводзіць дадому якуюсь паненку, не прадставіўшы яе раней мне?! І хто гэта бачыў, у тваім узросце распачынаць палавое жыццё?! Колькі ж мы з табою на гэтую тэму гаварылі: каб да гэтага дайшло, трэба вельмі кахаць таго чалавека, а не проста так!..

— Мама, я вельмі кахаю Марынку. А ўвогуле, мама, адкуль ты такая несучасная ўзялася? Мне ж 17 год! Хутка я ў армію пайду, служыць айчыне, і што, карабін я здольны ўжо насіць, а з дзяўчынай не магу? А як мяне возьмуць у Афганістан і я загіну, не спрабаваўшы жыцця? Мама, я Марыну кахаю, я хачу з ёю жаніцца. Нічога, што яна старэйшая за мяне, цяпер гэта часта здараецца...

Провады сына ў армію Антаніна падрыхтавала, як нейкае вяселле. Запрасілі ўсіх сяброў са школы, суседзяў. Марына сядзела разам з нарачоным за сталом, спявалі ім горкую водку і „На пазіцыі дзевушка...“ На вакзале Антаніна абняла дзяўчыну, расплакалася.

— Марынка, Марынка, ты цяпер для мяне як родная дачка! Нікога ў мяне тут больш няма. Не скрыўдзь ты толькі Толіка, ён такі ўражлівы, добры, ён так цябе кахае... Ты яго чакай! Не дай Бог, пападзе ён у Афганістан. Дасць Бог, усё будзе добра, будзеце самыя шчаслівыя ў свеце...

Марына паглядзела маці ў вочы, зняла яе рукі са сваіх плячэй, адвярнулася на пяце і пайшла сваёй дарогай.

У лістах да маці Толік дапытваўся, што такое з яго Марынкай, чаму перастала пісаць. Маці адпісвала, што не ведае. А ведала — Марына жыла цяпер з жанатым, старэйшым ад яе на 17 год чалавекам, у якога двое дзяцей і якога яна вельмі кахае.

Прайшоў год. Цяпер прыходзілі лісты з Афганістана. Маці начамі малілася, каб варожыя кулі міналі яе адзінае дзіця.

Марына зацяжарыла — мела надзею, што дзіця прымусіць яе каханка да разводу, але той сказаў ёй: „Зрабі з гэтым, што хочаш — гэта ўжо твая справа!“ Марынка на аборт прыехала ў бальніцу, дзе працавала яе „амаль“ свякруха. Ляжала тыдзень — былі камплікацыі, ды пагрозы, што ўжо ніколі не народзіць дзіцяці — і тут паявіўся ў бальніцы Толік, з рукой на павязцы. Праз тыдзень пайшлі ў ЗАГС запісацца.

Спачатку жылі разам з маці, але Антаніна не магла сцярпець, што сын прабачыў Марыне. Не магла глядзець на нявестку, на яе нахабныя адносіны да мужа, які ёй ва ўсім уступае. Маладыя нанялі кватэру ў другім канцы горада. Нарадзілася дачушка.

Антаніна вельмі рэдка наведвае іх дом — вельмі хочацца пабачыць унучачку. Сын часцей бывае ў маці, але ніколі не наракае. Антаніна пасля пабыўкі ў сына тыдзень хварэе — не можа дараваць, што яе сын пакахаў такой злой любоўю жанчыну, не вартую таго, і зламаў сабе жыццё.

— Яна і разводзіцца хоча, бо не хоча цяпер жыць з такім недарэкай, а ён просіць, каб яго не пакідала — у іх жа дзіцятка. І кветкамі, і падарункамі хату завальвае, а яна ўмее гэта яму ў твар кінуць і крычаць, што не мае густу, і не ўмее, як іншыя мужыкі, добра зарабіць, такі сумленны знайшоўся! А што ён вінаваты, што сляпы дагэтуль? — плача маці.

— Што зробіш — каханне не бульба, так хутка не выстыгне! — што ж я магу сказаць беднай маці?

Што ж сказаць мне Толіку, майму новаму сябру, заўчасна пасівеламу хлопцу-афганцу, бацьку, мужу з горада над блакітным Нёманам? Што кожны свой лёс выбірае? А можа гэта лёс выбірае, не мы?..

МІРА ЛУКША




Усе мне, Сэрцайка, гаварылі, каб кінула яго. Няма сэнсу, тлумачылі мне, ён жа такі малады, амаль на дзесяць гадоў маладзейшы за цябе. Нічога з гэтага не будзе! І сапраўды, майму хлопцу не было яшчэ і дваццаці, а мне ўжо было пад трыццаць. Але і ён пакахаў мяне першым чыстым юнацкім каханнем. Адно без другога мы жыць не маглі, і ён праседжваў у мяне ўсе свабодныя ад працы хвіліны. Мы вырашылі, што трэба жаніцца, і падалі ў суд, каб дазволіў нам, значыцца майму хлопцу, узяць шлюб, хаця ён яшчэ крыху замалады. Аднак жа ў судзе нам адмовілі і не далі згоды на шлюб. Яшчэ ёсць час, сказалі. Калі так кахаецеся, пачакайце яшчэ адзін год. І тады возьмеце законны шлюб.

Я вельмі абразілася на ўсе гэтыя суды і суддзяў і была вельмі нешчаслівая. Ну, скажы, чаму ж чалавек мае жыць у граху, калі можна быць законным мужам і жонкай? Кахаліся ж мы! Жыццё, аднак, ішло далей, і наступны год пераканаў мяне ў тым, што сапраўды суд не такі дурны. Мне здавалася, што наша каханне — на ўсё жыццё і гэта якраз той хлопец, які мне патрэбны. Аднак жа я памылялася.

У маёй кватэры жыла яшчэ адна сяброўка, якую я ўзяла да сябе, паколькі ёй проста не было куды падзецца. Ніколі не падумала б, што мой хлопец, прыходзячы да мяне, мог прыходзіць адначасова да маёй сяброўкі. Але аднойчы, калі я неспадзявана вярнулася дахаты раней, застала іх у недвузначнай сітуацыі, хаця не скажу, што ў пасцелі. Хлопец пачаў тлумачыцца, што зрабіў мне гэта на злосць, каб я знервавалася і пачала яго кахаць яшчэ больш. Мяне, аднак, такое тлумачэнне не задавальняла і я вырашыла пагаварыць са сваёй сяброўкай. І тады яна ва ўсім прызналася. Сказала, што так „на злосць“ яны робяць мне ўжо два месяцы. Пасля гэтага ніякія каментарыі не былі патрэбныя. Але я б, можа, гэта яшчэ даравала. Але прыехалі да мяне госці, і мой хлопец, як мне не было сорамна, пачаў лезці да адной з госцяў. Сэрца маё аблівалася крывёю, калі пасля ён пачаў ізноў пераконваць мяне, што рабіў гэта на злосць мне, каб узбудзіць трывогу і зайздрасць. Іронія лёсу!

Не хачу яго больш, хаця яшчэ кахаю, хаця не ўсё яшчэ сатлела ў маёй душы. Сэрцайка, скажы мне, ці варта кахаць такога хлопца?

Лідка

Лідка! Такіх пытанняў наогул не задаюць. Найчасцей жа кахаюць тых, якіх кахаць, на жаль, не варта.

Ты, відаць, разбудзіла свайго хлопца сексуальна. Можа, ты была нават яго першай дзяўчынай... Дык вось і прыліп ён да цябе. І так магло працягвацца даволі доўга, але... не да канца. Мо дзякуючы тваймў каханню здалося яму, што ўвесь свет належыць да яго, ды, зрэшты, рассмакаваўся ён і пачаў, як ты кажаш, „лезці“ да іншых дзяўчат. Што ж можна табе параіць? Мусіш пагасіць у сабе гэта каханне і паціху дзякаваць Богу, а таксама суду, што расшыфраваў яго раней. Усё ж магло скончыцца намнога больш трагічна, калі б былі вы ўжо мужам і жонкай, а на дадатак паявіліся б у вас яшчэ дзеці. Молада — зелена!

Сэрцайка




**ПРАЦАВІТЫ.** 31 год. Высокі, чарнявы. Паходжу з беластоцкай вёскі, жыву і працую ў горадзе. Пазнаёмлюся з дзяўчынай з Беларусі.

**АДЗІНОКАЯ.** 58 гадоў (выглядае намнога маладзей), сялянка, бяздзетная ўдава. Шчуплая, спакойнага характару, працавітая. Пазнаёміцца са спакойным, непітушчым удаўцом.

**ЧОРНЫ.** 31 год. Сумленны, працавіты, уражлівы. Маю сваю кватэру ў горадзе, жыву адзін. Хачу пазнаёміцца з сімпатычнай дзяўчынай з Беларусі.

**БАЦЬКІ.** Маладая сям'я (4 дзяцей) пазнаёміцца з падобнай з Беларусі.

**АРЫЯДНА.** 25 гадоў. Высокая, прываблівая бландзінка, вясёлая і сімпатычная. Цікавіцца кухняй, лячэбнымі зёламі, вязаннем на прутках, модай, добрай літаратурай.

**БЕЛАСТАЧЧАНКА.** Пазнаёмлюся з хлопцам да 30 гадоў з Гродна — культурным аптымістам, адкрытым і дасціпным, які бачыць і цэніць усю прыгажосць жыцця, і разумее чужы боль.

**БЯРОЗА.** Пазнаёмлюся з нежанатым беларусам да 33 гадоў, працуючым у галіне культуры ці навукі, або студэнтам, незалежным у поглядах і матэрыяльна, які цэніць секс.

**ГЕНІК,** 29 гадоў. Высокі, сімпатычны. Жыву на беластоцкай вёсцы. Спакойны, разважлівы. Пазнаёмлюся з добрай, мілай, працавітай дзяўчынай з Беларусі.




### САЛАТА З РАДЫСКІ

На 2 пучкі асенняй радыскі трэба ўзяць 3 лыжкі пасечанага эстрагону, 2 лыжкі пасечаных лісткоў мяты (або крыху сухіх прыпраў), 15 дэкаў тварагу, пучок зялёнай цыбулі, шклянку ёгурту, соль і перац.

Радыску памыць, адрэзаць лісце, нарэзаць тоненькімі скрылёчкамі. Ёгурт перамяшаць з пасечаным эстрагонам і мятай, дадаць да радыскі, укінуць таксама тварог. Зялёную цыбулю ачысціць, дакладна памыць і дробна нарэзаць (можна дадаць і белую цыбулю). Перамяшаць яе з салатай, дадаць па смаку солі і перцу. Есці з хлебам ці булкай.

### САЛАТА З ЧОРНАЙ РАДЫСКІ

На 30 дэкаў чорнай радыскі трэба ўзяць 20 дэкаў яблыкаў, 25 дэкаў цыбулі, сок з 1 лімона, 4 лыжкі пасечанай зялёнай цыбулі, шклянку ёгурту, 2 лыжкі алею, соль, перац, цукар.

Ёгурт перамяшаць з алеем, заправіць па смаку лімонным сокам, соллю, цукрам і перцам. Чорную радыску дакладна памыць, абабраць і сцерці на бурачанай тарцы. Тады перамяшаць з соусам. Цыбулю абабраць, спаласнуць, пасячы, дадаць да салаты. Яблык памыць, абабраць, пасячы, перамяшаць з салатай, заправіць па смаку. Гатовую салату пасыпаць у салатніцы зялёнай цыбуляй.

### САЛАТА З РОЗНАЙ ГАРОДНІНЫ

Узяць: 2 морквіны, 1 галоўку зялёнай салаты, 1 калярэпку, кавалак цвятной капусты, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, укропу і зялёнай цыбулі, 1 цыбуліну, 2 памідоры, 4 лыжкі алею, соль, лімонны сок, цукар, 4 лыжкі маянезу.

Гародніну ачысціць, памыць. Моркву і калярэпку сцерці на бурачанай тарцы, цыбулю і цвятную капусту нарэзаць костачкай. Нарэзаць палосачкамі салату. Усе прадукты перамяшаць з пасечанай зелянінай і алеем. Дадаць па смаку солі і лімоннага соку, а таксама крыху цукру, пералажыць у салатніцу. Паліць маянезам, зверху ўпрыгожыць нарэзанымі памідорамі. Гэту салату падаюць да мясных страў.

Гаспадыня

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ЯБЛЫНЬКІ

Вечар. На вокнах мароз, а за імі, за сцяною, на вуліцы, на панадворку і ў садзе загуляла сняжынкамі мяцеліца. Аднекуль прыляцеў сіберны вецер. Бразнуў на двары веснічкамі, загрукатаў у шыбіны, штурхнуў у іх снажком і завёў песню ў коміне.

Мішка і яго сястрычка адпачываюць ля печы і прыслухоўваюцца, як на двары спявае вецер. У пакоі так цёпла і ўтульна. Сястрычка чытае кніжку пра маладыя яблынькі. Побач, бліжэй ля печы, мурлыкае, заплюшчыўшы вочкі, кот Васілёк.

Раптам Мішка ўсхапіўся. Ці то кніжка сястрычкі аб яблыньках, ці надыходзячая зіма ўстрывожылі яго. Ён то раз-пораз прыслухоўваецца, як чытае сястрычка, то, зноў, як злуецца за вокнамі вецер. У яго ж у садзе таксама маладзенькія яблынькі, і яны не даюць яму спакою.

— Ірынка, Ірынка, а ці не пашкодзіць вецер нашым яблынькам? — пытае хлопчык.

— Што ты, — супакойвае яго Ірынка. — Нашы яблынькі не баяцца ветру. Вопратка ж іх такая цёплая, моцная...

Што за вопратка ў яблынек. Міша ведае. Увосень ён і дзядуля абвязалі яблынькі саломай шчыльна-шчыльна, каб вецер іх не змарозіў.

А наверх яны нават лапак з елак нанасілі з лесу і закуталі імі дрэўцы. Аднак Мішу непакоіць вецер.

А вецер то налятаў, шумеў у галінах дрэў, то сціхаў, лёгка імі пагойдваючы. Мішка хуценька накінуў паліто і шапку-вушанку і пабег на двор. З неба сыпаўся ўжо толькі дробненькі лёгкі сняжок, а сіберны вецер гнаў і гнаў яго як лёгкі пыл, па белай роўнядзі саду. Ноч была месячная, і снег, што курыўся над садам, здаваўся кудзельным прадзевам.

Да слыху Мішкі дайшоў нейкі стук. Ён прыглядзеўся... У канцы агароду вецер біў штыкецінай, і яна лёгка пагойдвалася ў бакі. „Трэба хутчэй забіць дзірку, — падумаў хлопчык і хуценька ўбег дахаты па малаток і цвікі. — А то, — успомніў Мішка, — зайцы ў сад залезуць, як пазалетась, і шкоды нарабяць“.



Шумеў у галінах дрэў вецер, браўся мароз, а хлопчык, не зважаючы на яго, узяўся за работу. Хутка ўсе штыкеціны былі прыбіты новымі цвікамі, а Мішка ішоў дахаты.

Месяц халодны, але ласкавы глядзеў на яго з вышыні і, здаецца, усміхаўся, а збоку падміргвала яму вясёлая зорка. У Мішкі было лёгка на душы. Ці то ад таго, што стаяў пагодлівы вечар, ці таму, што яго яблынькі не пашкодзяць зайцы, ці ад добра выкананай працы. Ён агледзеўся... У садзе стаялі заснежаныя яблынькі. Ствалы іх пакрыліся наледдзю і іскрыліся рознымі колерамі пры месячным святле, быццам вясёлкі.

**Янка Целушэцкі**

**Уладзімір Мацвеенка**

# ЗАГАДКІ

## ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

**Першыя загадкі ў папярэднім нумары**

5

Той узімку лютуе —
Мост нястомна будуе.
Гэты ломіць і гудзе,
За ім караван ідзе.

6

Моўчкі ідзе,
Моўчкі ўпадзе,
Моўчкі ляжыць,
А памрэ — пабяжыць.

7

Ён нарадзіўся на страсе,
Вялікім вырас пакрысе.
На сонцы грэцца ледзь пачаў,
Заплакаў моўчкі і прапаў.

8

На палянцы
пасля цёплай ночкі
Глядзяць блакітныя вочкі.

9

Па баразнах паўзу,
Іх зубамі грызу.
А час працы міне,
Дамоў еду на спіне.

10

Што за гаспадар лясны
Спіць пад снегам
да вясны,
Ну а летам да калод
Ходзіць красці
чужы мёд?

*Адказы знойдзеш у нумары 49.*

*Адказы на загадкі з папярэдняга нумара: 1. Зіма, вясна, лета, восень. 2. Зіма. 3. Сняжынка. 4. Лыжы.*

# ЗА ЧАНГ

## В'ЕТНАМСКАЯ КАЗКА

**Пачатак у папярэднім нумары**

Дарога была доўгая. За дзень абвінавачаны і яго канваіры не прайшлі і паловы дарогі. Калі спыніліся на начлег, За Чанг не мог заснуць. Хоць і змучыўся ў цяжкіх кайданах, але крыўда, што пакутуе без віны, не давала спакою. Так і праседзеў ён усю ноч без сну. А недзе на досвітку пачуў размову, якую вёў залётны верабей з мясцовымі:

— Збірайцеся, паляцім... Не часта такое здараецца, каб мы маглі наесціся дасыта. Тым больш, што не трэба баяцца. што прагоняць...

— А адкуль такая раскоша?

— Ад цара суседняй краіны. Ён ідзе вайною на гэтае царства, войска ўжо стаіць на граніцы. Затрымліваецца толькі таму, што ўчора абоз з харчаваннем трапіў у нябачныя ямы. Нам гэта вялікая здабыча!

За Чанг адразу ж расказаў усё канваірам і папрасіў, каб яны хутчэй паведамілі пра гэта начальству. Канваіры не паверылі яму і пайшлі далей. Але пасля настойлівай просьбы згадзіліся завесці За Чанга да начальніка правінцыі.

— Мая справа — дробязь, — сказаў начальніку За Чанг. — Вам неадкладна трэба вырашыць справу намнога важнейшую: цар паўночнай краіны Сяндзі збіраецца нечакана напасці на нашу краіну, яго войска ўжо стаіць на граніцы.

Начальнік занепакоіўся. Але ён не ведаў, ці можна верыць чалавеку, абвінавачанаму ў забойстве.

За Чанг, каб яму паверылі, прапанаваў:

— Калі я схлусіў, можаце адсячы мне галаву. А калі звесткі пацвердзяцца, прашу адпусціць мяне.

Начальнік згадзіўся. Ён адразу ж паслаў разведчыкаў, каб пераканацца, праўду сказаў стары За Чанг ці не. Як толькі разведчыкі вярнуліся, За Чанга вызвалілі, бо тое, што ён расказаў, пацвердзілася.

Абрадаваны, За Чанг шпарка пайшоў дадому. Ён вельмі спяшаўся, але ноч застала яго ў дарозе. Пераначаваць За Чанг вырашыў у свайго даўняга сябра Чан Аня.

Чан Ань і яго жонка прывеціва сустрэлі старога сябра і вельмі радаваліся, што бачаць яго, жывога і здаровага. Асабліва пасля таго, як За Чанг расказаў ім пра свае прыгоды. Аднак нечакана гаспадар засмуціўся. Ён быў вельмі бедны і не меў нават чым пачаставаць госця.

— Як шкада, — казаў ён жонцы, — што ў нас нічога няма для госця... Хіба што гусі? Іх двое, а гусяняты ўжо крыху падраслі. Аднаго з вялікіх гусей заўтра зарэжам.

Жонка згадзілася і папрасіла Чан Аня, каб той раненька ўстаў і дапамог ёй.

Гусі чулі ўсю размову сваіх бедных гаспадароў і пачалі вырашаць, каму застацца з гусянятамі.

(Працяг на стар. 10)



*На перапынку ў Падставовай школе № 3 ў Бельску — найбольшай у Польшчы школе, дзе навучаецца беларуская мова. У школе беларускую мову вывучае больш тысячы дзяцей.*

*Фота Я. Чэрнякевіч*

## малюнкі школьнікаў



*„Восень“. Мал. Павел Коршак, вуч. III класа.*




**СТАРОНКІ НАШАЙ ГІСТОРЫІ**

### МЯДОВЫ БУНТ

У прыродзе амаль кожнай грамадскай падзеі, якая прыводзіць у рух шырокія народныя масы, заўсёды ляжаць глыбінныя фактары, сукупнасць якіх і складае яе сапраўдную прычыну. Але канкрэтным штуршком да выбуху, той апошняй кропляй, якая перапаўняе чашу, часцей за ўсё выступае якая-небудзь знешняя зачэпка фармальнага характару.

Напрыклад, падставай Салянога бунту 1648 года паслужыў збор стралецкага і ямскога падаткаў, адмененых пасля ўвядзення падаткаў на соль, а Меднага бунту 1662 года — прыраўноўванне медных грошай да сярэбраных. Пад такімі назвамі яны ўвайшлі ў гісторыю, хоць непасрэдныя прычынай абодвух маскоўскіх антыфеадальных паўстанняў было цяжкае становішча сялян.

Аналагічна развіваліся і падзеі так званага Мядовага або Салодкага бунту — аднаго з самых драматычных і малавядомых эпізодаў шматгадовай **слонімскай** антыфеадальнай эпапеі.

Пасля жорсткага падаўлення антыпрыгонніцкага руху 40—60 гадоў XVII стагоддзя пануючыя колы Вялікага княства Літоўскага цешылі сябе надзеяй, што напалоханае сялянства доўга не пасмее ўзняць галавы, і ў дзяржаве, калі і не назаўсёды, дык, прынамсі, на доўгі час усталюецца спакой.

А напалохацца народу, сапраўды, было пасля чаго: пасля падаўлення паўстання 1648-1649 гадоў Беларусь нагадвала вымершы край. Вёскі і гарады ляжалі ў папялішчах, усё было разрабавана і спустошана дашчэнту. Найбольш пацярпелі паветы Брэсцкі, Пінскі, Рэчыцкі, Мазырскі, Бабруйскі і Мсціслаўскі.

Карнікі польнага гетмана Вялікага княства Літоўскага Януша Радзівіла не ведалі літасці. „Жорсткасць, — як піша польскі гісторык М. Косман, — была неверагоднай, пераможцы помсцілі за паражэнні ў першыя месяцы паўстання“. Па загаду Я. Радзівіла жаўнеры ўрадавага войска, большасць якога складала беларуская шляхта, выгнаная сялянамі з іх маёнткаў, спачатку некалькі дзён рабавалі штурмам узяты горад, а затым, уволю нацешыўшыся, падпальвалі яго адначасова ў некалькіх месцах. Відавочца гэтых падзей Б. Машкевіч пісаў пазней у сваіх мемуарах: „Жаўнеры палілі дамы, секлі не толькі мужчын і жанчын, але і дзяцей. Хто мог, уцякаў, але дужа мала іх ураталавалася“. У Пінску карнікі, не гледзячы на пол і ўзрост, знішчылі 14 тысяч чалавек, тая ж доля спасцігла ўсё насельніцтва Турава і большасць жыхароў Мазыра. „У Бабруйску частка паўстанцаў, каб не трапіць у рукі шляхецкага войска, спалілі самі сябе ў сваіх дамах“.

Жудасны стогн стаяў над зрэнцвелай ад нялюдскай лютасці зямлёй. Людзей чвартавалі, жыўцом саджалі на кол, вешалі, тапілі, душылі, голых прывязвалі над мурашнікамі. Ашалелая ад нянавісці і не абмежаваная нічым помсты, ачмурэлая ад гарэлкі і бяскарнасці шляхта літаральна купалася ў крыві, упіваючыся перамогай над „смярдзючымі хамамі“.

**Працяг будзе**

(З кнігі Станіслава Цярохіна „Мядовы бунт“)

## ПАЗНАЁМІМСЯ

УССР, 315331, Полтавская обл., г. Кременчуг, ул. 60 лет Октября, 55, кв. 97. Москалику Ивану (6 клас).

* * *

БССР, 225710, Брэсцкая вобл., г. Пінск, вул. Брэсцкая, 2, кв. 75. Межарыцкі Саша. (11 гадоў. Хоча перапісвацца па-беларуску).

**(Працяг са стар. 9)**

## ЗА ЧАНГ

— Заставайся ты з дзеткамі, дарагая, — кажа гусак. — Я не буду ўцякаць, дамся, каб мяне злавілі.

Гусыня папрасіла мужа дазволіць памерці ёй, але гусак настаяў на сваім і пайшоў развітвацца з дзецьмі. Ён ужо і пагаварыў з гусянятамі, наказаў, каб яны слухаліся і шанавалі маці, а гусыня ўсё плакала і шкадавала мужа.

За Чанг, які спаў каля акна, усё гэта чуў. Ён не хацеў, каб з-за яго засталіся без бацькі малыя гусяняты, і рашыў угаварыць сябра не чапаць гусей. Аднак будзіць гаспадара ноччу было няёмка, і За Чанг чакаў раніцы, калі Чан Ань прачнецца сам. Пасля трывог і цяжкай дарогі вельмі хацелася спаць, але ён вытрываў, баючыся праспаць.

Раніцою паміж сябрамі адбылася такая размова:

— Дарагі Чан Ань, ці ж наша сяброўства залежыць ад пачастунку? Мы былі і застанемся сябрамі. Прашу цябе, не чапай гусей. А калі зарэжаш гуся, пакрыўджуся!

Чан Ань не адважыўся пярэчыць і пакінуў гусей. А каб хоць як-небудзь накарміць старога сябра, паслаў жонку на кірмаш па крэвэткі.

Падсілкаваўшыся і падзякаваўшы, За Чанг развітаўся з сябрам. Ужо па дарозе, каля сажалкі, яго спынілі гусі. Наперад выйшаў гусак і сказаў:

— Да смерці буду табе ўдзячны, добры чалавек. А зараз вазьмі гэтую жамчужыну. Насі яе з сабой, яна дапаможа табе хадзіць па вадзе так, як і па сушы. А калі пабоўтаеш ёю ў вадзе, вада — і ў рацэ, і ў возеры, і ў моры — ускалыхнецца да самага дна...

Крыху памаўчаўшы, гусак дадаў:

— Шкада, што за нас загінулі крэвэткі. З гэтага дня мы ніколі не будзем есці крэвэтак, каб хоць так зменшыць сваю віну перад імі.

**Заканчэнне ў наступным нумары**

## Вершы Віктара Шведа

### УДАЧА

— Дзе нарваў груш столькі,
Неслухмяны Колька?
— Адкажу, каб ведаў:
У Пятра — суседа.
— А тваёй удачы
Наш сусед не бачыў?
— Бачыў і стралою
Гнаўся ён за мною.

### ЧАМУ БРУДНЫЯ РУКІ?

Пачалася навука.
Працуе ўжо школа.
— Чаму брудныя рукі
У цябе, Мікола?

Адказаў Коля з жалем:
— Прызнацца мне брыдка,
Рукі бруднымі сталі
Ад бруднага сшытка.

### НЕ З АПЕТЫТАМ ЕЎ, А З ХЛЕБАМ

— Ці абед еў, дзетка? —
Спытаў лекар Федзю.
— Еў! Матуля сведка!
Я ўжо па абедзе.

— Еў ты з апетытам? —
Прызнавацца трэба.
— Гэта з чым нібыта?
Еў я толькі з хлебам!

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



*Зрабі парадак у камодзе: паскладвай шкарпэткі парамі і пакладзі ў шуфлядкі. У сябе ў шуфлядцы — таксама.*


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Suraska 1, „Зорка“.

